№ 54 (3795)

12 ліпеня 2013 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

***Учора споўнілася 18 гадоў з дня выхаду першага нумара "Народнай Волі". Выпакутавалі свабоднае слова, баранілі і будзем бараніць гонар Беларусі, адстойвалі і будзем адстойваць правы чалавека.***
**Вы — з "Народнай Воляй", "Народная Воля" — з Вамі!**

СКАНДАЛ

# «Вайна» ў Пінску

Інтэрнэт узарваў відэаролік, на якім міліцыя Пінска затрымлівае пенсіянераў, што гандлявалі каля рынку "Заходні".

На відэа бачна, як пенсіянераў сілай, жорстка запіхваюць у міліцэйскую машыну, пажылы мужчына з бародкай супраціўляецца, але двое здаровых міліцыянераў усё роўна піхаюць яго ў "варанок". Усё адбываецца на вачах у сведак. З натоўпу чутны каментары "Ганьба!", "Бязмежжа!", "За што?", "Гэта жах!". Мінакі кідаюцца на дапамогу пенсіянерам, і пачынаецца сапраўдная бойка з крыкамі і гвалтам. У рэшце рэшт міліцыянерам удаецца заштурхаць у машыну некалькі чалавек. Адну жанчыну ахоўнікі парадку ўздымаюць дагары нагамі, так, што, прабачце, бачна яе бялізна, і кідаюць ва ўазік. Дзверы зачыняюць і "злачынцаў" вязуць у РАУС.

Пазней УУС Брэсцкага аблвыканкама патлумачыла, што трое жыхароў Пінска — дзве 64-гадовыя жанчыны і мужчына 55 гадоў — прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці. На мужчыну быў складзены пратакол па артыкуле 23.3 Адміністрацыйнага кодэкса Беларусі "Умяшанне ў вырашэнне справы аб адміністрацыйным правапарушэнні". Суд аштрафаваў яго на два мільёны рублёў. У адносінах да жанчын адміністрацыйныя пратаколы складзены за парушэнне правілаў гандлю і непадпарадкаванне супрацоўнікам міліцыі.

Высокія чыноўнікі лічаць, што міліцыянты дзейнічалі ў адпаведнасці з законам. Іх дзеяннем кіраўніцтва УУС Брэсцкай вобласці ніякай ацэнкі не дае.

Грамадскасць узбуджана настолькі, што немагчыма без болю ў сэрцы чытаць каментары.







ЗАМЕСТ КАМЕНТАРЫЯ

## І горка, і балюча...

Інцыдэнт у Пінску пакінуў уражанне цяжкае, нават агіднае. І адзін бок — міліцыя, і другі — пенсіянеры выглядалі такім чынам, быццам у Пінску вядуцца баявыя дзеянні. Сіла ішла, як заўсёды, напралом, слабасць абаранялася, губляючы чалавечае аблічча ад роспачы.

Але ўлада, пасылаючы людзей у пагонах на зачыстку гандляроў-пенсіянераў, павінна была гэта прадугледзець. Што людзі, хутчэй за ўсё, праявяць непадпарадкаванне, што грамадская думка будзе на баку пенсіянераў, што працаваць з такім кантынгентам трэба літаральна ў белых пальчатках, як гаворыцца, падушачку падкласці і ў машыну падсадзіць. Прымаючы пад увагу, натуральна, узрост правапарушальнікаў ды і само парушэнне: дробны гандаль на вуліцы.

Так, гэта нецывілізавана — прадаваць з асфальту ягады і сала, але такія спантанныя сезонныя рынкі ў нас у традыцыі. Яны ёсць і ў сталіцы, і ў абласных гарадах: каля вялікіх рынкаў, буйных гандлёвых кропак заўсёды стаяць групкі з усялякай дробяззю. На некаторых вуліцах ў Мінску на адным і тым жа месцы дзясяткі гадоў пажылыя дачнікі або вяскоўцы з прыгарадаў прадаюць пятрушку, цыбулю, кветкі... А падчас проста ў двор прыязджаюць машыны, і ўжо фермеры прапануюць прама з бартоў трускалкі, персікі, восенню — бульбу, яблыкі. Напэўна, без дазволу. А, напрыклад, нядаўна ў нашым садовым кааператыве "Сябры" прадавалі вельмі якасны мёд — я не пыталася пра дакумент, і так ясна. А ўвосень, вельмі спадзяюся, прыедзе Віктар на кані, у яго можна будзе купіць гной. Дарэчы, гэта вялікі дэфіцыт.

Адны прадаюць — іншыя купляюць. Мы ўсе, усё грамадства, па сутнасці, знаходзімся пакуль у несанкцыянаваных гандлёва-грашовых адносінах. Такая эканоміка — такое жыццё. І яно яшчэ доўга не будзе структуравана па еўрапейскіх стандартах.

Але не трэба быць з двума віхрамі, каб задаць уладзе простае пытанне: чаму гэта ўсё адбываецца? Адбываецца нецывілізавана. Вы што, спадары начальнікі, не разумееце, што менавіта штурхае многіх пенсіянераў на той асфальт, на вуліцу, на парушэнні? Вядома, ёсць элемент прававой непісьменнасці, гэта відавочна. У нас у крыві спантаннасць і нават, скажу больш рэзка, недысцыплінаванасць. Але ў асноўным, на жаль, дзейнічаюць больш суровыя фактары: шматгадовая, пакутлівая патрэба, якая зневажае чалавечую годнасць. На сярэднестатыстычную пенсію пражыць немагчыма. Таму што сённяшнія пенсіі многіх людзей — нішто, драбяза!

А жыць даводзіцца... І пажылыя гандлююць, каб здабыць лішнюю капейку. А магчыма, хацелі б сядзець дома ў цяньку і вышываць крыжыкам. Ці зладзіць шопінг — кажуць, вельмі супакойвае. Або з'ездзіць у Нясвіж на экскурсію ці ў Мінск паглядзець нарэшце на яго знакамітасці. Але ці можа сабе дазволіць гэтыя няхітрыя заняткі пенсіянер з правінцыі, у якога няма за што купіць заўтра бохан хлеба?

Не, не можа. І горка мне, і балюча за незнаёмых пажылых людзей — пабіліся з міліцыяй, забыўшыся пра годнасць узросту. І міліцыянтам амаль што спачуваю — іх зрабілі жывым шчытом паміж уладай і народам, каб выконвалі непрадуманыя загады. І сама не заракаюся ад жабрацтва: што там наперадзе?

**Алена МАЛОЧКА.**

УВАГА!

## *Падпішыцеся на «Народную Волю» ў фармаце PDF,*
*калі не жадаеце атрымліваць па пошце дахаты.*

Вы хочаце атрымліваць PDF-версію газеты "Народная Воля" на свой электронны адрас напярэдадні альбо ў дзень выхаду ў свет? Не праблема...

Падпісацца на PDF-версію даволі проста. Вось тыя крокі, якія вам неабходна зрабіць:

1.Зайдзіце на сайт "Народнай Волі" (**www.nv-online.info**) у раздзел "Падпіска" (у верхняй частцы галоўнай старонкі).

2.Знайдзіце ў дадатку неабходную форму рахунку-фактуры (індывідуальны падпісчык ці арганізацыя), спампуйце яе і захавайце ў камп'ютары.

3.Запоўніце поле "Плательщик" і пазначце колькасць месяцаў падпіскі.

4.Запоўнены рахунак дашліце на адрас advert@gmail.com (у лісце ўкажыце, на які электронны адрас вам трэба дасылаць газету).

5.Запоўненую форму раздрукуйце і аплаціце падпіску. Важна, каб прозвішча, імя і імя па бацьку ў рахунку супадалі з тымі, што будуць указаны пры аплаце.

6.Пасля таго як грошы паступяць на рахунак газеты, вы пачняце атрымліваць PDF-версію.

Для індывідуальных падпісчыкаў падпіска на 1 месяц — 30.000 рублёў.

Для арганізацый, устаноў і прадпрыемстваў кошт падпіскі на месяц — 40.000 рублёў.

Нагадваем, з 1 ліпеня бягучыя нумары "Народнай Волі" вырашана выстаўляць на сайт толькі праз два тыдні. Значыць, выбірайце: альбо аформіць падпіску праз пошту і атрымліваць папяровы варыянт газеты дахаты ў дзень выхаду нумара, альбо падпісацца ў фармаце PDF і таксама аператыўна знаёміцца з усімі публікацыямі.

БЕЛАРУСЬ—ЕС

## *Жазэ Мануэль БАРОЗУ, старшыня Еўрапейскай камісіі:*
## ***«Нельга нармалізаваць адносіны з рэжымам, калі не будуць вызвалены і рэабілітаваны ўсе палітычныя зняволеныя»***

Днямі Жазэ Мануэль Барозу наведаў суседнюю Літву і даў эксклюзіўнае інтэрв'ю газеце "Lietuvos rytas". Падчас гутаркі еўрапейскі чыноўнік распавёў і пра палітыку Бруселя ў дачыненні да ўсходніх суседзяў ЕС і не абмінуў тэму "ЕС—Беларусь".

— **Якія ўмовы ЕС ставіць Беларусі, каб устанавіць з гэтай краінай больш цесныя адносіны?** — так гучала адно з пытанняў інтэрв'ю.

— Развіццё двухбаковых адносін ЕС і Беларусі залежыць ад дэмакратызацыі і мадэрнізацыі інстытутаў улады Беларусі. Мадэрнізацыя павінна закрануць сістэмы захавання правоў чалавека і правасуддзя. Нельга нармалізаваць адносіны з рэжымам, калі не будуць вызвалены і рэабілітаваны ўсе палітычныя зняволеныя. ЕС хоча дапамагчы Беларусі ажыццявіць усе яе міжнародныя абавязацельствы ў гэтай сферы.

Мы падтрымліваем сувязі з беларускімі інстытутамі ўлады на ўзроўні міністраў і службовых асоб і з грамадзянскай супольнасцю, у асноўным у рамках праграмы "Еўрапейскі дыялог па пытаннях мадэрнізацыі".

ТРАГЕДЫЯ

## *Аўтобус з беларускімі дзецьмі трапіў у аварыю...*

На месцы аварыі загінулі 8 чалавек, сярод іх беларускі падлетак. З траўмамі рознай ступені шпіталізавалі 30 чалавек. З іх 22 беларусы і 8 украінцаў. Турыстычны аўтобус "SETRA" пад кіраваннем грамадзяніна Рэспублікі Балгарыя на аўтадарозе М-19 Даманава—Ковель—Чарнаўцы—Тэрэбліча, выехаўшы на сустрэчную паласу руху, сутыкнуўся з пасажырскім аўтобусам БАЗ "Эталон". Аўтобусы сутыкнуліся лоб у лоб.

**Даратэя СОЛТАН.**



ПО ПОВОДУ



*Мария ЭЙСМОНТ*

## Местная анестезия

Генеральному директору медицинского центра "Экомедсервис" Галине Волжанкиной изменена мера пресечения. Ее выпустили из СИЗО, взяв подписку о невыезде и обязательство надлежаще себя вести. Выйдя за стены изолятора, авторитетный доктор мобильный телефон не включила, с журналистами общаться не стала. Возможно, это и есть "надлежащее поведение", которого от нее потребовали правоохранительные органы.

Но от комментариев отказываются и другие фигуранты этого громкого дела — медицинская бригада "Экомедсервиса", участвовавшая в операции с трагическими последствиями: после нее 23-летняя Юлия Кубарева впала в кому и умерла. Хотя все они были выпущены на свободу буквально сразу после задержания.

Почему медики так осторожны? Почему не хотят рассказать общественности подробности того, что произошло в операционной? Опасаются, что излишней разговорчивостью могут себе навредить? Не хотят привлекать еще больше внимания к этому делу? Срабатывает простая логика: чем меньше будет шуму, тем больше шансов на несуровый приговор суда?

А возможно, объяснение куда проще: пока идет следствие, все подозреваемые не имеют права на публичный комментарий.

И тут, казалось бы, должны взять слово коллеги. Ведь мы привыкли, что медики горой стоят друг за друга. Но когда случилась трагедия с пациенткой "Экомедсервиса", все словно воды в рот набрали, как будто забыли простую истину: врачи не Боги, у каждого в практике может случиться ошибка. В цивилизованных странах врачей страхуют от подобных ошибок (прошу не путать с халатностью), там это привычное дело. У нас разговоры о необходимости применения такой практики ведутся много лет, но ничего не меняется.

Опытные анестезиологи в приватных беседах предполагали, что во время операции могла случиться клиническая смерть пациентки из-за сбоя в работе белорусского аппарата искусственной вентиляции легких. Врачи этого не заметили. А через 5—7 минут после клинической смерти умирает мозг...

В мировой практике это не такая уж редкость: по статистике, 6 процентов пациентов не выходят из наркоза после операции. Возможно, Юлия Кубарева попала в эти 6 процентов. Можно только гадать: приняло бы это дело такой оборот, если бы девушка решила провести эту злосчастную ринопластику в государственном медучреждении? И там случаются трагедии, и родственники тоже винят во всем врачей. Нередко "Народная Воля" получает письма, в которых слезы и боль: авторы утверждают, что врачи не вовремя оказали помощь, не спасли, проявили халатность. Все знают, что в Беларуси очень сложно (практически невозможно) привлечь к ответственности врачей за неправильное лечение. Вот и пишут в газеты.

А тут возбуждено не просто уголовное дело, создан прецедент. Еще до решения суда генеральный директор "Экомедсервиса" и врач-анестезиолог были помещены в СИЗО. Последний остается там до сих пор. Врача, как настоящего убийцу, изолировали от общества. И сейчас все гадают: каким будет приговор, в каком режиме будут проходить слушания, не закроют ли их от общественности? Посадят — "наконец-то!" — в Беларуси врачей или нет? И что-то подсказывает, что тех, кто жаждет конкретных тюремных сроков для медиков, — большинство. Уж слишком раздражены белорусы некачественной медицинской помощью.

Но изнуряющие очереди, раздражение от невнимания, необходимость предварительно записываться на обычные исследования, жалобы на качество лечения — это ведь не про частную медицину, это будни государственных поликлиник и больниц. Однако сейчас все вроде как забыли про это, перестали замечать. Кажется, всех, даже коллег-медиков, устраивает, что найдены "козлы отпущения".

Ведомственная газета Министерства здравоохранения после трагедии провела опрос среди врачей государственных клиник. "Вас манит частная медицина?" — задали медикам лукавый вопрос. И все опрашиваемые в едином порыве заявляли, что не хотят работать в частных центрах, и причины называли: и условия там плохие, и возможности не те, да и врачи-частники преследуют больше коммерческие, а не благие цели...

Но когда Министерство здравоохранения сразу же после ЧП в "Экомедсервисе" бросилось проверять все частные медцентры, выяснилось, что никакого бардака в частной медицине нет. Из 264 проверенных медцентров закрыт был только один (!), а не 12, как тут же объявили буквально все СМИ. И то потому, что его сотрудники минздравовскую комиссию не пустили даже на порог. Проверяльщики сделали логический вывод: если дверь заперта, значит, за ней есть что скрывать. Еще в 11 центрах лицензия была отозвана лишь на один вид деятельности, в основном на услуги по анестезиологии и реаниматологии.

В те дни, кажется, только один чиновник Минздрава, и тот инкогнито, заявил, что случай в "Экомедсервисе" открыл ящик Пандоры, "в который в годы замалчивания проблем отрасли прятались ошибки, неудачи, халатность и безответственность", и "только судебным процессом над медиками "Экомедсервиса" дело не закончится, стоит ждать отставок в руководстве отрасли и активизации дискуссии о необходимости введения в стране института страховой медицины".

Но, похоже, чиновник ошибся. И отставок не произошло, и дискуссии, как решить проблему некачественного лечения в Беларуси, которая назрела и перезрела, нет. Эта проблема — как гнойник, который страшно вскрывать, но который может привести к заражению всего организма. Лечить его надо! Но вряд ли спасительным средством тут может стать показательный суд над медиками. Потому как в данной ситуации требуется не местное обезболивание. Жизненно необходимо найти причину недуга и искоренить ее. Но такой способ лечения белорусской медицины, складывается впечатление, никто искать не торопится.

ТРЫВОГА

Зянон ПАЗЬНЯК:

# «Патрэбна мабілізацыя ў абарону Курапатаў»

***Курапаты — помнік асобага кшталту. У знішчэнні яго і кантролі над ім зацікаўлена ФСБ-КГБ Расіі і палітычныя колы, якія гэтую кантору абслугоўваюць. Усе складанасці, канфлікты, правакацыі і нішчэнні не абыходзіліся без удзелу гэтай "канторы". Рана ці позна рэстаран, які будуюць пад Курапатамі, знайшоў бы туды дарогу.***

...На пачатку чэрвеня сябры КХП—БНФ устанавілі даўно замоўленыя памятныя знакі, якія размясцілі па канцах ахоўнай зоны. Гэтая ідэя ажыццёўлена на навуковай аснове і ўзгоднена як дзяржаўная справа. Толькі інвестыцыі ў яе ўкладзены ад абарончай арганізацыі і прыватнай асобы...




Мемарыяльнымі знакамі сябры партыі займаліся амаль цэлы год. Завяршэнне справы прыспела якраз у патрэбны час, калі ўжо стала зразумелай сутнасць прафанатарскай ініцыятывы з так званай "агульнанацыянальнай талакой". Сэнс — змена межаў ахоўнай зоны. Я пра гэта ўжо пісаў.

Цяпер імпэт прафанатараў на гэтым накірунку затармозіцца. Але, не сумняваемся, "кантора" перакінецца на іншы план. Мяркуючы па заявах, ім падкінута думка зрабіць з Курапатамі тое, што зрабілі камуністы з лесам Ваньковіча, ператварыўшы яго ў так званы "парк Челюскинцев".

Гэты лес (і гэты "парк") ёсць другія Курапаты ў Мінску. Тут у 1930-я гады і на пачатку 1940-х пастаянна расстрэльвалі людзей, прывозілі на машынах з турмы НКВД, расстрэльвалі і скідвалі ў ямы.

Ужо ў 1930-я частка тэрыторыі лесу была выраўнена, прараджана і ператворана ў паркавую зону. Магілы засыпаны, пляцоўка лесу зараўняна. Расстрэльнае месца назвалі "парком Челюскинцев". Нагадаю, што гэта за назва.

У 1934 годзе ў Чукоцкім моры быў раздушаны ў ільдах карабель "Челюскин". Перад "Челюскиным" ставілася задача асвоіць Паўночны-марскі шлях за адну навігацыю. Задача не была выканана. Але па загадзе Сталіна (каб скрыць правал) бальшавікі паднялі лямант на ўвесь СССР аб выратаванні "герояў". Людзей з карабля, што патануў, перавезлі на кантынент і ўсім (104 асобы) далі ордэны, медалі, званні герояў. З правалу Сталін зляпіў "поспех".

Усё тлумачылася тым, што побач у фарватары за "Челюскиным" плыў транспартны карабель з зэкамі ГУЛАГа, якіх везлі распрацоўваць новыя руднікі. І на транспарце, і на "Челюскине" плыла адначасна і энкавэдысцкая ахова зэкаў. Зэкі ў ільдах загінулі, а энкавэдыстаў, вучоных і маракоў выратавалі, арганізавалі гучнае шоу і ўсіх зрабілі героямі. "Вся страна славила героев-челюскинцев..."

Пачалі прысвойваць імя гэтага спецкарабля калгасам, арганізацыям, вуліцам, паркам і г.д.

Ёсць нейкая цёмная сімволіка ў тым, што расстрэльнаму месцу далі назву, звязаную з расійскімі энкавэдыстамі ў ролі "герояў". (Тое, што гэтая назва існуе ў Мінску па сённяшні дзень — прыкмета часу.)

На пачатку 1990-х гадоў Народны Фронт паставіў у "парку" беларускі памятны крыж, праводзіў тут мемарыяльныя мітынгі-рэквіемы. Я планаваў у будучыні даследаваць гэтую тэрыторыю на прадмет выяўлення расстрэльных магіл. Зазначу, што даследаванне гэтае вельмі цяжкае, бо праверанных, надзейных тэхналогій па выяўленні закапаных людзей не існуе. Без раскопак можна выявіць у зямлі металічныя прадметы, будаўнічыя канструкцыі, але не косці. Тым не менш я спрабаваў бы, паклаўшыся на археалагічную інтуіцыю. У гэтым лесе ("парку") могуць быць закапаны адказы на шмат якія пытанні (у тым ліку, магчыма, і на катынскія). Цяпер даследаванне недаступнае і практычна немагчымае.

Яшчэ горш зрабілі ў Лошыцы ў 1988 годзе пасля адкрыцця Курапатаў — засыпалі расстрэльны яр шматметровым пластом галечнага жвіру. У Лошыцы ў 1937 годзе расстралялі тысячы людзей...

Што датычыць леса Ваньковіча ("парка Челюскинцев") і акаляючых Сляпянскіх лясоў, то тут бальшавікі расстрэльвалі з 1917 года. І не толькі бальшавікі, але і іншыя акупанты, што з 1917-га па 1920 год пабывалі ў Мінску.

У канцы 1920-х — пачатку 1930-х гадоў энкавэдысты зрабілі ў Сляпянскім лесе свае сталыя "курапаты", дзе рэгулярна расстрэльвалі людзей, якіх прывозілі на машынах. У 1932 годзе, па сведчанні відавочцаў, там былі ўжо сотні агульных магіл, над усім лесам стаяў ванітуючы трупны пах.

Уладзімір Дудзіцкі, які бачыў гэтае месца, гэтыя магілы і забойцаў, апынуўся за гэта сам у ГУЛАГу. Там у 1935 г. ён спаткаў зэка-сухотніка, "дахадзягу", былога малодшага лейтэнанта мінскага НКВД. Перад смерцю гэты энкавэдыст усё паўтараў: "Моцна пакараў мяне Бог за сляпянскія душы... Ляжыць там не менш дзесяці тысяч..."

У 1937 годзе энкавэдысты "оборудовали" яшчэ тры месцы масавых расстрэлаў ля Мінска. Гэта Лошыца, вядомыя Курапаты і трэцяе — побач, за шэсць кіламетраў ад Сляпянскага лесу, у лесе Ваньковіча ("парк Челюскинцев").

У "парку" расстрэльвалі рэгулярна, але толькі ноччу (магчыма, таму, што месца было побач з горадам).

...Я ўвесь час думаў: скончыцца Вярхоўны Савет — вазьмуся за даследаванне Сляпянкі. Але Вярхоўны Савет скончыўся разам са свабодай. Пакуль што адзінае, што не змаглі знішчыць нашчадкі забойцаў, — гэта Курапаты. За гэта, за іх абарону ад знішчэння, і трывае вось ужо 25 гадоў пастаянная барацьба.

Нічога не змаглі зрабіць з Курапатамі, але падбіраюцца ўвесь час.

Дзеля абароны Курапатаў ахвяравалася цэлая партыя — КХП—БНФ. Таму могілкі існуюць, ператвораныя ў Народны мемарыял. Месца забойства народа пастулова сакралізуецца як святое.

Зразумела, што гэта не засталося незаўважным для пэўных колаў улады ў Беларусі і Расіі. З 2012 года пачалася комплексная атака на Курапаты з выкарыстаннем новых "ідэй", праверанных дзеянняў і падстаўных асоб.

Пачалося з будаўніцтва за межамі ахоўнай зоны нібыта стандартнага сэрвіснага дарожнага цэнтра. Але ў нейкі час пад відам гэтага будаўніцтва вельмі хутка, ужо ў самой ахоўнай зоне імгненна выраслі, як грыбы, незапланаваныя будынкі, якія аказаліся будучым рэстаранам з інтымнымі пакоямі і зняважлівай для беларусаў назвай "Бульбаш-хол". Высветлена, што рэстаран тут незаконна будуюць масквічы. Мы падалі заяву ў пракуратуру. Будаўніцтва прыпынілі (ужо хутка будзе год). Але нічога не робіцца. Шукаюць, відаць, выхаду, каб захаваць незаконныя пабудовы. За гэты перыяд было сфабрыкавана шмат дэзінфармацыі.

Звяртае на сябе ўвагу версія, выпушчаная ў апошні час, быццам бы рэальным заказчыкам рэстарана, гаспадаром і інвестарам з'яўляецца вельмі высокапастаўленая асоба кіруючага рэжыму. Маскоўская фірма і маскоўскі інвестар — гэта падстаўная мімікрыя.

Калі такое пацвердзіцца, то зразумела, што пракуратура нічога істотнага рабіць не будзе. Але пры моцным націску грамадскасці сістэма можа даваць трэшчыны.

Другім крылом наступу на Курапаты была правакацыя з памятным слупком у знак версіі пра "расстраляных польскіх афіцэраў". Гэтая правакацыя правалілася.

Наступны прыём — шумная рэклама так званай "агульнанацыянальнай талакі", якая скончылася прасекай з боку рэстарана.

Цяпер выношваюцца планы, пра якія я казаў на пачатку, — у перспектыве стварэнне "парка Челюскинцев-2". Цяпер пакуль што толькі пушчана думка — зрабіць з Курапатаў парк...

Рабіць эмацыянальныя ацэнкі тут бессэнсоўна. Чыста рацыянальна, мяркую, прыйдзецца аб'яўляць мабілізацыю людзей на абарону Курапатаў.

Група прафанатараў тут цяпер мала значыць. Але калі за нішчэнне Мемарыяла і ператварэнне Курапатаў у парк бярэцца рэжымная ўлада, то гэта сур'ёзная небяспека...

*(Тэкст друкуецца з невялікімі скарачэннямі.)*

ДА ЎВАГІ!

## Пра парушэнні можна даведацца праз інтэрнэт

*На сайце МУС з'явіўся сэрвіс, які дазваляе даведацца аб наяўнасці фактаў перавышэння хуткасці руху, зафіксаваных камерамі фота- і відэафіксацыі.*

Беларускія кіроўцы даўно казалі пра тое, што дзеючая сістэма абвесткі аб складанні адміністрацыйнага пратакола і вынясення штрафу за перавышэнне хуткасці недастаткова эфектыўная: "лісты шчасця" прыходзяць па адрасе прапіскі ўласніка аўтамабіля, а ДАІ перадае даныя ў суды, нягледзячы на своечасовую аплату штрафу.

Зараз даведацца аб наяўнасці фактаў перавышэння хуткасці руху, зафіксаваных камерамі фота- і відэафіксацыі, можна праз online-сэрвіс на сайце МУС. На працягу сутак пасля фіксацыі перавышэння хуткасці інфармацыя пра гэта з'яўляецца ў базе даных.

ЧУЛІ?

## Закінутыя магілы могуць ліквідаваць

*Супрацоўнікі КУП "Спецкамбінат КБА" прапануюць унесці дапаўненні ў праект закона "Аб пахаванні і пахавальнай справе", які зараз разглядаецца ў Саўміне і Мінюсце.*

*— Наша асноўная прапанова такая: калі два перыяды (40 гадоў) сваякі не ходзяць на месца пахавання, ніхто яго не даглядае, то мы вывешваем аб'яву. Калі ніхто не рэагуе і на аб'яву, наша камісія абследуе гэтую магілу. Зробім эксгумацыю, парэшткі крэміруем і пахаваем астанкі ў брацкай магіле*, — патлумачыў на прэс-канферэнцыі генеральны дырэктар КУП "Спецкамбінат КБА" **Мікалай Ракевіч.** — *Пахаванне не знікне бясследна. На помніку брацкай магілы будзе запісана, як звалі памерлага, а таксама год нараджэння і год смерці. Месца, якое вызвалілася, мы прададзім тым, хто мае патрэбу.*

Мікалай Ракевіч запэўнівае, што іх прапанова тычыцца толькі тых магіл, за якімі не даглядаюць па 40 гадоў. Старыя могілкі, за якімі прыглядаюць блізкія, ніхто чапаць не будзе.

Як вядома, сённяшняя версія закона забараняе без ведама сваякоў пераносіць могілкавае пахаванне. Між тым, запэўніваюць прадстаўнікі КУП "Спецкамбінат КБА", прыкладна 70% магіл на старых могілках сёння ніхто не даглядае, прычым дзесяцігоддзямі.

Па словах Ракевіча, прапаноўваючы ў закон папраўкі, абапіраліся на вопыт заходніх краін. *"Да прыкладу, у Германіі, калі ты праз 20 гадоў хочаш даглядаць за пахаваннем, калі ласка, плаці службе грошы за кожны год. Калі не хочаш плаціць — астанкі пераносяць, эксгуміруюць і закопваюць у брацкую магілу, а гэта месца аддаецца іншым",* — прывёў прыклад гендырэктар КУП "Спецкамбінат КБА".

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

МОДЕРНИЗАЦИЯ

# Мелкое предпринимательство: отсталый слой или могучий резерв экономики?

*На Западе именно малый и средний бизнес во многом двигают экономику. Как раскрепостить их потенциал в Беларуси?*

Чиновники и некоторые близкие к властям аналитики восприняли недавний бунт малого бизнеса против техрегламента Таможенного союза как нежелание принимать справедливые требования и вписываться в цивилизованные рамки. Однако малые предприятия играют важную роль во всех развитых экономиках.




В странах Западной Европы, США и Японии это в основном предприятия, на которых работают не более 20 человек. Малый бизнес обеспечивает 2/3 прироста новых рабочих мест, что позволило значительно сократить безработицу в этих странах. Его доля в ВВП для стран Евросоюза составляет порядка 60%, для экономики США — около 50%.

В Беларуси вклад малого и среднего бизнеса в ВВП существенно ниже — 22%. В странах-партнерах по Таможенному союзу — 20% и 19% в экономику России и Казахстана соответственно. Такие данные на VI Астанинском экономическом форуме привел директор Департамента развития предпринимательской деятельности Евразийской экономической комиссии **Рустам Акбердин**. При этом эксперт подчеркнул, что вес малого и среднего бизнеса во всех странах Таможенного союза не соответствует потребностям экономик.

### Государство должно перестать мучить бизнес проверками

Доля индивидуальных предпринимателей среди категорий плательщиков в Беларуси пока незначительна, хотя объем налогов и сборов, которые они вносят в казну, постоянно растет. Однако это не предел, особенно если государство будет действительно озабочено стимулированием роста малого и среднего бизнеса.

В Беларуси на протяжении ряда лет действует Программа государственной поддержки предпринимательства. Некоторые эксперты полагают, что в последние годы условия для ведения бизнеса в стране заметно улучшились. Однако до показателей развитых стран отечественному бизнесу еще далеко. Какие реформы могут раскрыть потенциал малого и среднего предпринимательства в нашей стране?

Председатель Ассоциации малого и среднего бизнеса **Сергей Балыкин** уверен, что реформа нужна только одна — не мешать инициативе, оставить предпринимателей в покое. Эксперт отмечает большое количество административных барьеров, которые мешают бизнесу развиваться:

— Важно не декларировать либерализацию, а просто не мешать бизнесу работать. Нужно перестать мучить проверками, отчетами.

Серьезным ударом по малому бизнесу Сергей Балыкин считает указ о борьбе с лжепредпринимательскими структурами, поскольку включение в реестр достаточно произвольное и непрозрачное, а проверять на предмет присутствия в нем теперь приходится всех контрагентов.

— Для маленькой фирмы с небольшим штатом проверять каждого довольно хлопотно. И не дай Бог пропустить. Хотя бы сделали базу данных, которой легко пользоваться, — предлагает Сергей Балыкин.

### Бизнесу нужно давать ниши на рынке

Чтобы малый бизнес дал большие результаты, необходимо раскрыть потенциал народа, считает сопредседатель Республиканской конфедерации предпринимательства **Виктор Маргелов**. По мнению лидера предпринимателей, условия ведения бизнеса в Беларуси улучшаются, однако пока далеки от идеальных.

Необходимый шаг, который помог бы развитию предпринимательства, — возможность для бизнеса участвовать в формировании "правил игры".

— Нужно пересмотреть баланс межотраслевых интересов, — предлагает Виктор Маргелов. — В Беларуси большой перекос в сторону банковского сектора, который зарабатывает гораздо больше малого бизнеса, особенно той его части, которая занимается производством.

Среди других предложений предпринимателей — необходимость соблюдения баланса трудовых ресурсов, поскольку сегодня в стране некому развивать малый бизнес. Бизнесу нужно давать ниши на рынке, долю в государственных закупках, как это делается в развитых странах. Тогда доля малого бизнеса в стране гарантированно росла бы.

— Нужна реформа инфраструктуры и перераспределение ресурсов, — полагает экономист Белорусского экономического исследовательско-образовательного центра (BEROC) **Дмитрий Крук**. — Например, сегодня госпредприятия имеют приоритет в доступе к финансовым ресурсам, что не позволяет малому и среднему бизнесу конкурировать с ними на равных условиях.

### Европейский опыт с национальными особенностями

Вклад малого и среднего бизнеса в экономику может быть гораздо более существенным при внедрении ряда инструментов для поддержки и развития предпринимательства.

— В Евросоюзе есть огромный опыт, который нам не мешало бы применить у себя для развития предпринимательства, — отмечает Виктор Маргелов. — И замечательно, если удастся сделать это в рамках "Европейского диалога о модернизации с Беларусью" или других программ. Другое дело, что систему надо строить с учетом национальных, экономических, культурных особенностей.

По мнению Дмитрия Крука, "Диалог о модернизации" предусматривает более широкий спектр вопросов и обсуждение реформ для более широкого перечня экономических субъектов.

— Однако как одно из направлений тема реформ в малом и среднем бизнесе была бы вполне уместна, — полагает эксперт.

Сергей Балыкин считает более актуальным опыт США и Канады, поскольку экономики этих стран намного свободнее. В то же время, отмечает эксперт, опытом ряда европейских стран стоило бы воспользоваться.

— Интересен был бы опыт создания некоммерческих бизнес-инкубаторов, которые помогали бы начинающим предпринимателям, предоставляли бы по низкой цене или вообще бесплатно помещения в аренду, — предлагает Сергей Балыкин.

### "Бонусы" для маленьких

Высокого уровня развития малый бизнес в странах с развитой экономикой достиг, в том числе благодаря помощи государства, которое активно инвестирует в развитие малого и среднего предпринимательства. Вот несколько инструментов, которые используются для стимулирования развития бизнеса в США и Европе.

**США.** Принципы поддержки малого и среднего бизнеса сформировались еще во времена Великой Депрессии. Государство начало субсидировать малые и средние предприятия в 1932 году. Как раз малый бизнес обеспечивал в сложный экономический период создание рабочих мест. В 1942 г. в стране принимается Закон о малом бизнесе. А в 1953 г. в США создается Федеральное агентство — Администрация по делам малого бизнеса (АМБ), которая до сегодняшнего дня защищает интересы малого бизнеса на правительственном уровне. АМБ оказывает предпринимателям финансовую и консультационную поддержку, содействует в получении правительственных заказов, в заключении контрактов с крупными предприятиями. Филиалы АМБ расположены во всех крупнейших городах США.

На малый бизнес в США распространяются специальные налоговые льготы, например, "бонус первого года", когда налог выплачивается не со всей, а с половины налогооблагаемой суммы.

**Франция.** Новые малые предприятия на два года освобождаются от налогов на акционерные общества и от местных налогов. Для них снижаются подоходный налог, налог с инвестируемой части прибыли.

Разработана система поддержки бизнесов, создающихся безработными. Они на три года освобождаются от налогов и на год — от обязательных выплат в фонд социального страхования. Бывшим безработным, ставшим предпринимателями, выдаются специальные книжки, отрывными чеками из которых можно расплачиваться за услуги по менеджменту, юриспруденции, бухгалтерскому учету. Практически все владельцы малых предприятий могут рассчитывать на получение льготных кредитов, ссуд и субсидий.

Развитием предпринимательства занимается специальное правительственное учреждение — Национальное агентство по созданию предприятий (АНСЕ).

Показательно, что в целом малый бизнес в Европе адаптировался к кризисным условиям наиболее эффективно. Малые предприятия стали занимать ниши, неинтересные крупным предприятиям, что в значительной степени помогает европейским странам преодолевать стагнационные явления в экономической сфере.

**Польша.** Эффективная государственная политика поддержки малого и среднего предпринимательства способствует развитию этих предприятий, предоставляя им дотации на обучение частных предпринимателей. На становление собственного дела в Польше сейчас дается 20—25 лет, в течение которых действуют следующие законы: на первые 10 лет малые предприятия освобождаются от налога на прибыль на 100%, в течение же последующих 10 лет — уже на 50%. В налоговой политике Польши существует тенденция снижения социального налога.

Основные инструменты государственной поддержки малого бизнеса в США и странах Европы

1. Упрощение процедур регистрации, получения лицензии до 1 дня
2. Льготное налогообложение
3. Льготное кредитование
4. Подготовка помещения под бизнес
5. Функционирование программ поддержки

**Петр СТАРОБИНЕЦ.**



## Расіянам могуць вярнуць савецкія ўклады

*Беларускія ўлады сцвярджаюць, што ў нашай краіны такой магчымасці няма.*

Міністэрства фінансаў Расіі ўнесла ва ўрад законапраект, з дапамогай якога дзяржава да 2020 года павінна цалкам разлічыцца перад грамадзянамі па савецкіх укладах, піша Lenta.ru.

Ведамства прапануе кампенсаваць грамадзянам усе ўклады, павялічыўшы іх памер у чатыры разы. Такім чынам, лічаць чыноўнікі, будзе ўлічаны рост коштаў, які адбыўся з распаду СССР.

Па падліках Мінфіна, на працягу наступных васьмі гадоў на гэтыя мэты спатрэбіцца 340 мільярдаў рублёў. У бюджэце 2014—2016 гадоў на кампенсацыю савецкіх укладаў запланавана 150 мільярдаў.

Міністэрства эканамічнага развіцця дакумент раскрытыкавала: у ведамстве лічаць, што Мінфін прадугледзеў для грамадзян недастатковыя кампенсацыі. У лісце ведамства, на які спасылаецца выданне, адзначаецца, што папярэдні план кампенсацыі ўкладаў прадугледжваў фактычную выплату 85 расійскіх рублёў за адзін савецкі.

У Мінэканамразвіцця лічаць, што Мінфін проста абраў найбольш камфортны для бюджэту варыянт. Законапраект варта дапрацаваць з улікам яго сацыяльнай значнасці, сцвярджаюць у міністэрстве.

Іншыя міністэрствы ўзгаднілі законапраект Мінфіна без заўваг.

Трэба адзначыць, што ў цяперашні час Ашчадны банк Расіі ўжо выплачвае кампенсацыі па савецкіх укладах. Пры гэтым грамадзяне да 1945 года нараджэння атрымліваюць тры расійскія рублі за адзін савецкі, а народжаныя пазней — два.

У некаторых краінах былога СССР, напрыклад, Літве і Казахстане, улады ўжо разлічыліся па савецкіх укладах, ва Украіне працэс яшчэ ідзе, першыя выплаты ўкраінцы атрымалі ў 2008 годзе.

Што тычыцца Беларусі, то час ад часу ў грамадстве гучыць абурэнне, людзі патрабуюць кампенсацыі, некаторыя звяртаюцца з пісьмамі ў Нацбанк. Аднак грошай на гэта няма. Вось і ў гэтым годзе кіраўнік Нацбанка Беларусі Надзея Ермакова заявіла, што ў бліжэйшы час выплат кампенсацый па савецкіх укладах чакаць не варта. *"Для гэтага з бюджэту краіны неабходна вылучыць вельмі вялікія грошы. Пакуль такой магчымасці ў дзяржавы няма"*, — адзначыла Ермакова.

**Ганна ГАНЧАРЫК.**

## 16 тысяч падлеткаў на алкагольным уліку

Згодна з данымі Міністэрства аховы здароўя, у Беларусі на 1 ліпеня 2013 года агульная колькасць дыспансерных хворых на алкагалізм складае каля 180 тысяч чалавек (або 1850,7 на 100 тысяч жыхароў).

Акрамя таго, каля 90 тысяч чалавек назіраюцца як тыя, хто ўжывае алкаголь са шкоднымі наступствамі. Сярод іх 16 тысяч непаўналетніх.

Статыстыка сведчыць, што працягласць жыцця людзей, якія п'юць, скарачаецца ў сярэднім на 15 гадоў, прыкладна палова ўсіх дарожных здарэнняў здзейснены ў нецвярозым стане.

Цяпер навукоўцамі даказана, што няма бяспечных, а тым больш карысных доз алкаголю.

